# Голас Радзімы

№ 35 (2021)
27 жніўня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Ткацтва на Беларусі — адзін са старажытнейшых народных промыслаў. Спрадвеку ткалі жанчыны адзенне, ткалі прадметы хатняга побыту — абрусы, ручнікі, посцілкі. З часам мянялася практычнае прымяненне гэтых рэчаў, як упрыгажэнне не зніклі яны з сялянскіх хат і сёння, часта сустрэнеш іх цяпер і ў гарадскіх кватэрах.

Па-ранейшаму ткуць вясковыя жанчыны, асабліва зімой, калі мінае гарачая сезонная работа. Ткуць на Брэстчыне і Гродзеншчыне, на Міншчыне і Магілёўшчыне. У вядомых майстрых абавязкова ёсць вучні—дзеці, унукі. Ткачыха Вера БУЖЫНСКАЯ, якую вы бачыце на нашым здымку з унукам Алёшам, жыве і працуе на Віцебшчыне, у Верхнядзвінскім раёне.

Фота С. КРЫЦКАГА.

СУСТРЭЧЫ

## МІР ПАТРЭБЕН УСІМ

У Мінску знаходзіліся ўдзельнікі Рэйса міру з Японіі, члены Лігі сацыялістычнай моладзі, якія прыбылі ў нашу краіну па лініі бюро міжнароднага маладзёжнага турызму «Спутнік». Як сказаў кіраўнік дэлегацыі Туошы Сунада, гэта паездка ў СССР прысвечана 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.

За час знаходжання ў сталіцы Беларусі маладыя турысты пазнаёміліся з мінулым і сучасным нашай рэспублікі, горада-героя Мінска, слаўнымі рэвалюцыйнымі, баявымі і працоўнымі традыцыямі беларускага народа, даведаліся аб важным укладзе моладзі рэспублікі ў барацьбу за мір і дружбу паміж народамі.

У яркую маніфестацыю адзінства ў барацьбе за прадухіленне ядзернай вайны выліліся мітынгі ў музеі Вялікай Айчыннай вайны і на мемарыяльным комплексе «Хатынь». Была выказана аднадушная думка ў падтрымку савецкіх мірных ініцыятыў, за згуртаванне радоў моладзі ў выступленнях супраць планаў імперыялізму ў развязванні ядзернай вайны. У прынятай рэзалюцыі гаварылася, што народы Савецкага Саюза і Японіі і сёння не могуць залячыць раны, нанесеныя вайной, трагедыі Хатыні, Хірасімы і Нагасакі не павінны паўтарыцца.

Многа цікавага даведаліся госці ў час наведання гадзіннікавага завода «Прамень», Мінскага маторнага завода. Адбыліся гутаркі па розных пытаннях жыцця моладзі дзвюх краін.

З творчасцю беларускага народа, яго гісторыяй японскія госці пазнаёміліся ў час візіту ў Дзяржаўны музей БССР, Палац мастацтва.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## З МІНСКАЙ МАРКАЙ

Спецыялісты фірмы «Хайнеман» (ФРГ) палічылі выгадным купіць у Мінскім вытворчым станкабудаўнічым аб'яднанні імя Кастрычніцкай рэвалюцыі праектаваны тут высокапрадукцыйны фрэзерна-расточны станок з лічбавым праграмным кіраваннем. Іх прывабілі яго вялікая магутнасць і высокая дакладнасць апрацоўкі буйнагабарытных карпусных дэталяў. Але адначасова прадстаўнікі заходнегерманскай фірмы настойвалі, каб у мэтах непарушэння уніфікацыі іх вытворчасці на станку было ўстаноўлена спецыяльнае абсталяванне фірм «Бош» (ФРГ) і «Форэст-Ліпэ» (Францыя). А гэта патрабавала змянення некаторых вузлоў станка.

Разблытаць увесь гэты няпросты «клубок» эканамічных сувязей з замежнымі партнёрамі так, каб былі задаволены ўсе бакі, канструктарам і тэхнолагам дапамаглі супрацоўнікі знешнегандлёвай фірмы мінскага прадпрыемства. Права стварыць падобныя падраздзяленні па экспарту ў станкабудаўнічай галіне атрымалі пакуль толькі восем вядучых заводаў краіны, прадукцыя якіх аказалася не толькі канкурэнтаздольнай, але і карыстаецца шырокім попытам на сусветным рынку. Напрыклад, мінскія фрэзерна-расточныя, прадоўжана-стругальныя, балансіровачныя і іншыя станкі пастаўляюцца ва ўсе сацыялістычныя краіны, а таксама ў Японію, Канаду, Францыю, Бразілію... Цяпер паспяхова завершаны яшчэ адзін кантракт на мільён рублёў — новы станок з мінскай маркай адпраўлены ў Кёльн.

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З КНР

У Мінску пабывала дэлегацыя Камісіі па справах нацыянальнасцей Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў, якая знаходзілася ў Савецкім Саюзе па запрашэнню камісій палат Вярхоўнага Савета СССР. Яе ўзначальваў член Пастаяннага камітэта УСНП, намеснік старшыні камісіі Юй Вэнь.

Кітайскіх гасцей прыняў Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевіч. Члены дэлегацыі цікавіліся работай Саветаў народных дэпутатаў Беларусі, набытым у рэспубліцы вопытам сацыялістычнага будаўніцтва ў сям'і брацкіх савецкіх народаў, ходам перабудовы, ажыццяўляемых ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Госці ўсклалі вянок да манумента-абеліска на плошчы Перамогі.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ПАЗНАЁМІЛІСЯ СА СТАЛІЦАЙ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя зямельнай арганізацыі Камуністычнай партыі Аўстрыі на чале з яе Старшынёй, членам ЦК КПА Р. Славікам. Дэлегацыя прыбыла па запрашэнню ЦК Кампартыі Беларусі.

У ходзе дружалюбнай гутаркі, якая адбылася ў ЦК КПБ, другі сакратар ЦК КПБ Г. Барташэвіч расказаў гасцям аб Беларусі, рэалізацыі працоўнымі праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, рабоце партыйнай арганізацыі.

Аўстрыйскія камуністы зрабілі экскурсію па гораду, агледзелі Мінскі метрапалітэн.

МАДЭРНІЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ

## ТРЫ РОБАТЫ І АПЕРАТАР

Тры робатызаваныя комплексы пушчаны на Брэсцкім заводзе газавай апаратуры. Створаны яны на самім прадпрыемстве: праектную дакументацыю распрацавалі канструктары аддзела галоўнага механіка, вырабіў робаты рамонтна-механічны цэх. Комплексы, сабекошт кожнага з якіх аказаўся вельмі нізкім — тры тысячы рублёў, у корані змянілі характар працы станочнікаў. Аўтаматызаванай лініяй кіруе адзін аператар.

КААПЕРАТЫВЫ

## ДЛЯ ЗЯЛЁНАЙ АПТЭКІ

У вёсцы Вялікія Чучавічы створаны першы ў Лунінецкім раёне кааператыў — «Дары прыроды». Ён узяўся нарыхтоўваць і часткова перапрацоўваць лекавыя расліны. У ім шэсць чалавек — мясцовыя рабочыя і іх жонкі. Травы збіраюць у вольны час. Кааператыў ужо здаў на мінскую базу 300 кілаграмаў зёлак. Яшчэ ў сёлетнім сезоне аптэ[illegible] атрымаюць ад «Дароў прыроды» дзве тоны святаянніку, чыстацелу, багуну, ліста брусніц, талакнянкі і іншых лекавых траў.

Лунінецкі лясгас перадаў кааператыву ў арэнду памяшканне для сушкі і часовага захоўвання лекавай сыравіны.

НАВУКА — ВЁСЦЫ

## УНІВЕРСАЛЬНАЯ ЖНЯЯРКА

Убіраць збожжавыя ў самыя спрыяльныя тэрміны, прычым меншай колькасцю машын, дазволяць універсальныя жняяркі. Яны сканструяваны ў Цэнтральным навукова-даследчым інстытуце механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Нечарназемнай зоны СССР, а выпуск наладзілі ў Баранавічах на камбінаце сянажных вежаў. Новыя агрэгаты могуць скошваць збожжавыя, зернебабовыя, насеннікі траў, а таксама доўгасцяблбовыя палеглыя пасевы.

Убіраць палегліцу — справа няпростая і клапотная. Працаваць прыходзіцца на паніжаных скорасцях, прадукцыйнасць зніжаецца, расход гаручага павялічваецца. А новая жняярка прыўзнімае палеглыя сцяблы, разблытвае іх і быццам брытвай зразае ля самых каранёў, не пакідаючы на полі ні каласка, ні саломінкі.

МАЛАДЗЁЖНЫ АДПАЧЫНАК

## ГАСЦІНАЯ АДЧЫНЯЕ ДЗВЕРЫ

У Палацы культуры і тэхнікі «Тэкстыльшчык» Баранавіцкага бавоўнянага аб'яднання адкрылася маладзёжная музычна-літаратурная гасціная «Пры свечках». У яе стварэнні прыняці ўдзел камітэт камсамола аб'яднання і клуб маладых рабочых «Гармонія».

Сіламі членаў ініцыятыўнай групы праведзена ўжо некалькі пасяджэнняў. Першая праграма была прысвечана паэтам-землякам. Потым наведвальнікі гасцінай сустрэліся з рок-групай «Дыялог», ансамблем «Фестываль» і групай спартыўнага танца «Імпульс» гарадскога Палаца культуры.

Зараз у членаў ініцыятыўнай групы канікулы. Але пра адпачынак яны не думаюць. Набываюць новую мэблю, абмяркоўваюць афармленне інтэр'ера, план будучых праграм, якія павінны быць цікавымі.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Вывесці ўвесь дойны статак на чатырохтысячныя надоі абавязаліся сёлата жывёлаводы племзавода «Несята» Клічаўскага раёна. Поспеху ў рабоце садзейнічаюць укараненне на фермах калектыўнага падраду, добра арганізаванае спаборніцтва. Вялікая ўвага ўдзяляецца племяннай рабоце, стварэнню неабходнага запасу кармоў на стойлавы перыяд. НА ЗДЫМКУ: на пашы.



Сабраць да зярнятка ўсё вырашчанае, выключыць страты пры ўборцы ўраджаю — вось сэнс сённяшніх клопатаў хлебаробаў саўгаса «Халопенічы» Крупскага раёна. З лівенямі, рэдкімі проблескамі сонечнага надвор'я прыйшло да нас сёлета жніво. Таму з раніцы дзяжураць у полі камбайны: як толькі прасушыць збожжа вецярком — загудзяць маторы, пасыплецца ў бункеры збожжа. Па 48 цэнтнераў збожжа з гектара намалочваюць хлебаробы саўгаса ў гэтыя дні. НА ЗДЫМКУ: галоўны аграном саўгаса Яўген БУДРЭВІЧ (злева) з камбайнерам Станіславам МАЛАШКЕВІЧАМ (у цэнтры) і яго памочнікам Сяргеем ЗЮЗЮНОМ.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІ[illegible]

## ВАДАЁМ ДЛЯ САНАТОРЫЯ

Санаторый «Рассвет», дзе папраўляюць сваё здароўе механізатары, жывёлаводы, спецыялісты калгаса «Рассвет», што на Любаншчыне, а таксама многія працаўнікі сельскай гаспадаркі Беларусі, карыстаецца вялікай папулярнасцю.

Вопыт медыкаў, сучаснае абсталяванне, разнастайныя медыцынскія працэдуры, а таксама сасновы лес з грыбамі, ягадамі і цудоўнае чыстае паветра ствараюць спрыяльныя ўмовы для адпачынку, лячэння людзей.

Пакуль побач з санаторыем няма рэчкі ці возера. Але і гэта праблема будзе вырашана: тут ствараецца вадаём. Ён раскінецца на 16 гектарах.

НАРАДЖЭННЕ ТРАДЫЦЫІ

## КІРМАШ ШУМІЦЬ...

Мінчане, якія жывуць у цэнтры горада, раптам прачнуліся ад цішыні. Галоўную магістраль — Ленінскі праспект на суботу і нядзелю аб'явілі пешаходнай зонай.

На тратуарах з'явіліся прылаўкі на колах, вясёлыя яркія шатры, кафэ пад парасонамі. Тут можна купіць усё неабходнае, набыць кветкі і падарункі, ацаніць вырабы ўмельцаў з новых кааператываў, выпіць кубак квасу... А можна вярнуцца дадому з карцінай ці нават уласным партрэтам, напісаным мастаку ў парку імя Горкага.

Галоўная каштоўнасць такога кірмашу — у магчымасці пашырэння чалавечых зносін. Усяго месяц існуе чатыры кіламетры пешаходнай зоны, а для многіх яны сталі любімым месцам сустрэч.

А магазіны атрымалі дадатковую выручку — амаль мільён рублёў.

МУЗЕІ

## МОТАЛЬСКІ КАРАВАЙ

Дзякуючы калгасным умельцам ажыў вятрак у старажытнай палескай вёсцы Моталь Іванаўскага раёна. З пшаніцы новага ўраджаю змалолі муку-крупчатку. Па народнай традыцыі жанчыны спякуць з яе каравай для калгасных хлебаробаў.

Калгас «40 год Кастрычніка» — насенняводчы. Яго вызначае высокая культура земляробства. Цяпер з кожнага гектара намалацілі ў сярэднім па 43 цэнтнеры збожжа, а ячменю на некаторых гектарах даў па 60 цэнтнераў.

Працуючы ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку, хлебаробы калгаса асабліва клапоцяцца аб павышэнні ўраджайнасці нівы. Палешанне контурнасць палёў, расшырана іх плошча. Укаранёна глебаахоўная тэхналогія вырошчвання збожжавых на лёгкіх пясчаных глебах і асушаных палях. Замест плугоў пры падрыхтоўцы нівы скарыстоўваюцца культыватары-пласкарэзы, іголчатыя бароны ў агрэгаце з каткамі.

А каб перавага новых спосабаў апрацоўкі зямлі стала больш наглядней, каб больш людзей ведала аб майстэрстве мотальскіх хлебаробаў, мясцовыя краязнаўцы вырашылі адкрыць на млыне музей хлеба.

ВЫСТАЎКІ

## ДАР ЗЕМЛЯКАМ

Жыццю і творчасці ўраджэнца Капыльшчыны, заслужанага мастака РСФСР Пятра Розіна прысвечана выстаўка яго работ, адкрытая на другім паверсе дзіцячага кафэ ў цэнтры Капыля.

Тут дэманструюцца каля 100 палотнаў і эскізаў. Яны перададзены ў дар мясцоваму краязнаўчаму музею жонкай мастака пасля яго смерці.

«Працаўнікі нашых палёў» — так называецца экспазіцыя, на якой прадстаўлены партрэты лепшых людзей сучаснай вёскі. Неўзабаве капыляне змогуць азнаёміцца з карцінамі з цыклаў «Краіна Саветаў» і «Месяц у працаўнікоў сяла».

*ЧАЛАВЕК І ЯГО ПРАВЫ*

# ПАДЛЯГАЕ АБСКАРДЖАННЮ

**На сесіі Вярхоўнага Савета СССР, якая адбылася ў Маскве 30 чэрвеня гэтага года, прыняты Закон «Аб парадку абскарджання ў суд неправамерных дзеянняў службовых асоб, якія ўшчамляюць правы грамадзян». Пракаменціраваць яго мы папрасілі доктара юрыдычных навук, прафесара Валерыя ЦІХІНЮ.**

Уласна кажучы, Канстытуцыя СССР 1977 года ўжо прадаставіла грамадзянам права абскардзіць у суд дзеянні службовых асоб. Такое палажэнне запісана ў артыкуле 58. А цяпер і Вярхоўны Савет СССР у мэтах выканання гэтай канстытуцыйнай нормы прыняў Закон «Аб парадку абскарджання ў суд неправамерных дзеянняў службовых асоб, якія ўшчамляюць правы грамадзян». Але я б спачатку ў двух словах хацеў закрануць гісторыю гэтай праблемы.

Ідэя абскарджання ў суд дзеянняў службовых асоб была выказана яшчэ заснавальнікамі марксізму-ленінізму.

Ф. Энгельс першай умовай свабоды лічыў «адказнасць усіх чыноўнікаў за ўсе свае службовыя дзеянні ў адносінах да любога з грамадзян перад звычайнымі судамі і па агульнаму праву». У. І. Ленін прапаноўваў забяспечыць у канстытуцыі «прадастаўленне кожнаму грамадзяніну права праследаваць усякага чыноўніка перад судом без скаргі па начальству».

Абарона правоў і законных інтарэсаў грамадзян стала адным з галоўных палітычных, маральных і прававых патрабаванняў сацыялістычнай дзяржавы. І ў нас ёсць цэлая сістэма органаў, якія абараняюць правы грамадзяніна. Сярод гэтых органаў асобае месца займае суд. Перавага яго ў тым, што ён незалежны і падпарадкоўваецца толькі закону. Разбор справы ў судзе адбываецца публічна, пры спаборнасці бакоў. Гэтыя і іншыя дэмакратычныя прынцыпы судаводства ствараюць спрыяльныя ўмовы для высвятлення сапраўдных акалічнасцей справы і ўстанаўлення ісціны, што забяспечвае эфектыўную ахову правоў і законных інтарэсаў грамадзян.

Цяпер аб новым Законе. І па форме, і па зместу ён адпавядае духу нашага часу. Гэта яркі прыклад таго, як наша грамадства вучыцца жыць ва ўмовах сацыялістычнай дэмакратыі. Бо ні ў адной краіне капіталістычнага свету падобнага закона няма.

І да прыняцця Закона ў суд можна было абскардзіць некаторыя дзеянні службовых асоб. Напрыклад, прызнанне несапраўдным ордэра на жылую плошчу, пастанова органаў дзяржаўтаінспекцыі аб пазбаўленні вадзіцельскіх правоў і некаторыя іншыя. У агульнай складанасці судовы кантроль распаўсюджваўся прыкладна на 30 дзеянняў службовых асоб. Пасля ўвядзення ў дзеянне новага Закона, а ён уступае ў сілу з 1 студзеня 1988 года, магчымасці грамадзян звярнуцца ў суд са скаргамі на дзеянні службовых асоб значна расшыраюцца.

У Законе не даецца канкрэтны пералік дзеянняў службовых асоб, якія можна абскардзіць. Вызначальнай прыкметай служыць неправамерны характар дзеянняў службовых асоб, ушчамленне правоў грамадзян.

Закон не абмяжоўвае ні кола грамадзян, што маюць права на скаргу, ні кола службовых асоб, на дзеянні якіх можа быць прынесена скарга ў суд. Па сэнсу Закона абскардзіць у суд можна толькі асабістыя дзеянні службовых асоб. Пры гэтым абскарджаны могуць быць дзеянні, ажыццёўленыя службовымі ас[illegible]мі як ад свайго імя, так і а[illegible]я органаў, якія яны прадстауляюць.

Любы грамадзянін мае права звярнуцца ў суд са скаргай, калі лічыць, што службовая асоба ажыццявіла дзеянні, у выніку чаго ён незаконна пазбаўлены магчымасці поў[illegible]о ці часткова скарыстаць [illegible]рава, якое прадастаўлена яму законам ці іншым нарматыўным актам; на яго незаконна ўскладзены які-небудзь абавязак.

Не могуць быць абскарджаны ў суд дзеянні службовых асоб, у адносінах якіх дзеючым крымінальна-працэсуальным, грамадзянскім працэсуальным заканадаўствам, заканадаўствам аб адміністрацыйных правапарушэннях і іншым заканадаўствам Саюза ССР і саюзных рэспублік прадугледжаны іншы парадак абскарджання. Акрамя таго ў мэтах аховы дзяржаўнай тайны не распаўсюджваецца судовы парадак абскарджання дзеянняў, якія тычацца абароны краіны і дзяржаўнай бяспекі.

Да кампетэнцыі суда не адносіцца разгляд скаргаў грамадзян на рашэнні, прымаемыя калегіяльным органам (напрыклад, выканкомам мясцовага Савета народных дэпутатаў). Падобныя рашэнні могуць быць апратэставаны у тым ліку і па скаргах грамадзян, пракурорам па лініі агульнага нагляду.

Вырашэнню скаргі ў судзе павінен абавязкова папярэднічаць разгляд яе вышэйстаячай у парадку падпарадкаванасці службовай асобай ці органам. Іншымі словамі, грамадзянін можа звярнуцца ў суд толькі ў тым выпадку, калі яго скарга не атрымала станоўчага вырашэння ў адміністрацыйным парадку. Гэта павышае адказнасць за прымаемыя рашэнні не толькі службовых асоб, дзеянні якіх непасрэдна абскарджваюцца, але і тых кіраўнікоў, якім гэтыя службовыя асобы падпарадкаваны.

Ананімныя заявы да разгляду судамі не прымаюцца.

Па просьбе грамадзян у абарону іх інтарэсаў са скаргамі ў суд могуць звяртацца прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і працоўных калектываў. Хачу адзначыць, што скаргі грамадзян на дзеянні службовых асоб дзяржпошлінай не аплачваюцца. Скарга падаецца ў раённы (гарадскі) народны суд па месцу работы службовай асобы, чые дзеянні абскарджваюцца.

Скарга ў суд можа быць пададзена ў месячны тэрмін з дня атрымання грамадзянінам адмовы ў задавальненні яго скаргі вышэйстаячай у парадку падначаленасці службовай асобай або органам ці з дня заканчэння ўстаноўленага законам тэрміну для разгляду скаргі. Прапушчаны па ўважлівай прычыне тэрмін для падачы скаргі можа быць адноўлены судом.

Ну, а калі суддзя адмовіў у прыняцці скаргі? Тады яго дзеянні могуць быць абскарджаны ў касацыйным парадку ў вышэйстаячы суд на працягу 10 дзён пасля вынясення пастановы аб адмове.

Скарга ў народным судзе разглядаецца, як правіла, у адкрытым судовым пасяджэнні з удзелам грамадзяніна, які падаў скаргу, і службовай асобы, дзеянні якой абскарджваюцца. У судовым разглядзе скаргі могуць удзельнічаць прадстаўнікі грамадскасці, а таксама службовыя асобы вышэйстаячых у парадку падначаленасці органаў ці іх прадстаўнікі. Няўка ў судовае пасяджэнне бакоў па няўважлівых прычынах не з'яўляецца перашкодай да разгляду скаргі.

Закон устанаўлівае дастаткова кароткі тэрмін, на працягу якога суд павінен разглядзець скаргу, — 10 дзён.

Суд абавязаны праверыць, ці адпавядаюць закону дзеянні, якія абскарджваюцца, ці не. У залежнасці ад вынікаў праверкі суд альбо прызнае скаргу абгрунтаванай і абавязвае аднавіць парушаныя правы, альбо адмаўляе[illegible]ў задавальненні скаргі.

У выпадках звароту ў суд з неабгрунтаванай скаргай судовыя выдаткі па справе могуць быць ускладзены на самога заяўніка.

Спыняк[illegible] самавольства з боку службовых асоб, суды ў той жа час павінны будуць выкараняць спробы нядобрасумленных людзей, якія могуць выкарыстаць прадастаўленае законам права на скаргу, каб узвесці паклёп на сумленнага работніка. Калі службовая асоба становіцца аб'ектам паклёпу, то, як прадугледжана законам, суд заводзіць крымінальную справу, вінаватыя ў гэтым асобы прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

Варта адзначыць, што рашэнне суда не падлягае абскарджанню, але можа быць апратэставана пракурорам у парадку нагляду. І ў такім выпадку прыпыняецца выкананне рашэння.

Органы ці службовыя асобы, якім накіравана для выканання рашэнне суда, абавязаны не пазней, чым у месячны тэрмін з моманту вынясення рашэння, паведаміць суду аб прынятых мерах. У выпадку невыканання рашэння суд прымае меры, прадугледжаныя законам. А яны вельмі сур'ёзныя. Так, у адпаведнасці з арт. 372 Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса БССР суд мае права накласці на вінаватую службовую асобу штраф у памеры да 200 рублёў і прызначыць яму новы тэрмін для выканання рашэння. Калі і пасля гэтага рашэнне не выканана, суд можа зноў накладваць штрафы ў размеры да 200 рублёў, але агульная сума штрафа не павінна перавышаць 1 000 рублёў. Уплата штрафу, аднак, не вызваляе службовую асобу ад абавязку выканаць рашэнне суда.

Вядома ж, з уступленнем у сілу новага Закона больш строга будзе захоўвацца службовымі асобамі законнасць пры прыняцці рашэнняў па скаргах грамадзян. У тых сацыялістычных краінах, дзе судовы кантроль за дзеяннямі службовых асоб ажыццяўляецца ўжо многа год, адзначаецца ўмацаванне законнасці ў сферы адміністрацыйна-прававых адносін, колькасць незаконных рашэнняў па скаргах грамадзян рэзка знізілася.

Рэалізацыя права грамадзян на абскарджанне ў суд неправамерных дзеянняў службовых асоб будзе садзейнічаць выкараненню бюракратызму і фармалізму ў рабоце дзяржаўнага апарату. А гэта адна з галоўных задач працэсу перабудовы.

Новы заканадаўчы акт з'яўляецца эфектыўным сродкам, які гарантуе справядлівую ахову правоў і свабод савецкіх грамадзян. У гэтым яго сіла і дэмакратызм.

---

**Вялікі ўклад у вырашэнне навуковых і тэхнічных праблем па стварэнню спецтэхналагічнага абсталявання ўносіць навукова-вытворчае аб'яднанне «Планар», галаўное прадпрыемства якога знаходзіцца ў Мінску. Пачаўшы з вырабу ручных маніпулятараў для мікраперамяшчэнняў і выпуску універсальнага абсталявання на іх аснове, калектыў аб'яднання сёння аснашчае машынабудаўнічыя заводы робатамі і гібкімі аўтаматызаванымі лініямі. Сканцэнтраваўшы асноўную ўвагу на асваенні больш сучасных відаў прадукцыі, тут штогод абнаўляюць 25—30 працэнтаў выпускаемага спецыяльнага тэхналагічнага абсталявання, што дазволіла за апошнія 10 год павысіць яго прадукцыйнасць у 5—6 разоў і дакладнасць—амаль у 3 разы. Вырашэнне гэтых пытанняў патрабавала пошуку нетрадыцыйных метадаў правядзення распрацовак, прымусіла кіраўніцтва адмовіцца ад існуючых норм і інструкцый. Былі створаны, напрыклад, комплексныя творчыя брыгады, якія ўключаюць спецыялістаў розных напрамкаў — электронікаў, механікаў, оптыкаў, праграмістаў, тэхнолагаў, рабочых.**

**Усё гэта ў спалучэнні з правам распрацоўшчыка на разумную рызыку, умелае выкарыстанне маральных і матэрыяльных стымулаў дазволіла вырабіць абсталяванне, якое не ўступае па сваіх параметрах лепшым замежным аналагам ці перасягае іх. У 1983—1987 гадах аб'яднанне прадстаўляла нашу краіну на прэстыжных міжнародных выстаўках. Паказаныя там узоры выклікалі цікавасць прадстаўнікоў фірм з капіталістычных краін, ад якіх атрыманы шэраг прапаноў па экспартных пастаўках.**

**НА ЗДЫМКАХ: група распрацоўшчыкаў, якой кіруе лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Валянцін МАЛЫШЭЎСКІ (другі злева) у зборачным цэху вытворчага аб'яднання «Інтэграл»; лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі БССР начальнік лабараторыі Альберт КАРАЕЎ (злева) і начальнік аддзела Алег ТВЯРДОЎ абмяркоўваюць пытанні тэхналогіі зборкі; вядучы канструктар Валерый ЗАЙЦАЎ.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




«Ад лучыны—да лазераў» называецца адзін з раздзелаў кніжкі Уладзіміра Ермалаева «Навуковы патэнцыял Беларусі». Ад лучыны да атамных рэактараў і лазераў шагнуў беларускі народ за гады Савецкай улады, якой сёлета спаўняецца 70. У гістарычным плане зусім невялікі адрэзак часу, але колькі ўсяго ён умясціў!

Возьмем, да прыкладу, навуку. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі яе ў Беларусі фактычна не існавала. Восем з кожных дзесяці жыхароў былі непісьменнымі, не было ніводнай навуковай і ніводнай вышэйшай навучальнай установы. На працягу стагоддзяў змагаліся беларусы за стварэнне сваёй вышэйшай школы і ніколі не знаходзілі падтрымкі з боку ўлады, іх імкненне да ведаў так і заставалася прыгожай марай. Вядомы гісторык мінулага стагоддзя А. Кіркор пісаў, што ніхто не клапаціўся аб развіцці разумовых сіл народа ў беларускім краі. А між тым у гэтым народзе спакон веку захавалася многа творчых сіл і здольнасцей. Сярод вядомых расійскіх вучоных было нямала выхадцаў з беларускіх губерняў. Далёка за межамі Беларусі вядомы імёны рэвалюцыйных дэмакратаў Кастуся Каліноўскага і Валерыя Урублеўскага, пісьменнікаў Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны. Ва ўмовах жорсткага нацыянальнага і сацыяльнага ўціску наш народ здолеў стварыць сваю мову, пісьменнасць, багаты фальклор.

Гісторыя беларускай вышэйшай школы пачынаецца з кастрычніка 1917 года. Літаральна ў першыя месяцы пасля рэвалюцыі ў краіне наладжвалася сістэма народнай асветы, вялася барацьба з непісьменнасцю, расшыралася сістэма вышэйшай адукацыі, і, што было асабліва здзіўляючым у той надзвычай цяжкі для маладой дзяржавы час, ствараліся не толькі ў цэнтры, але і на ўскраінах навукова-даследчыя інстытуты. Першай вышэйшай навучальнай установай у Беларусі стаў Віцебскі педагагічны інстытут, адкрыты ў 1918 годзе. Тады ж пачаў працаваць педінстытут у Магілёве, затым у Мінску. У 1921 годзе адбылася найважнейшая падзея ў развіцці нашай вышэйшай школы—адкрыўся Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. І да Вялікай Айчыннай вайны, і ў пасляваенны час у Мінску і іншых гарадах рэспублікі адкрываліся інстытуты самых розных профіляў, якія рыхтавалі кадры для народнай гаспадаркі, культуры, аховы здароўя. Зараз у Беларусі працуе тры універсітэты.

У 1928 годзе была прынята пастанова аб пераўтварэнні Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук. Прэзідэнт АН СССР А. Карпінскі ў сваёй прывітальнай тэлеграме новай установе пісаў, што Усесаюзная акадэмія навук гатова дзяліцца з маладой акадэміяй сваім вопытам і сіламі, цвёрда памятаючы, што толькі дружнай работай навуковых сіл усяго Саюза можна дасягнуць вынікаў, якіх чакае краіна, што будуе новае жыццё. Сёння Беларуская акадэмія навук—галоўны навуковы цэнтр рэспублікі. У пяці яе аддзяленнях аб'яднаны 32 даследчыя ўстановы. Некаторыя інстытуты АН БССР з'яўляюцца ў краіне галаўнымі, як, напрыклад, Інстытут фізікі.

«Гаварыць у нашы дні пра даследаванні, што вядуцца вучонымі рэспублікі,—піша Уладзімір Ермалаеў,—значыць, гаварыць пра самыя розныя напрамкі сучаснай навукі—квантавую электроніку, вышэйшую матэматыку, тэхнічную кібернетыку, фізіку цвёрдага цела і паўправаднікоў, ядзерную энергетыку, оптыку і спектраскапію, мікра- і оптаэлектроніку, пра механіку металапалімерных сістэм, праблемы надзейнасці машын, фізіка-арганічную хімію, геахімію і геафізіку, батаніку і заалогію, генетыку і цыталогію, мікрабіялогію, геранталогію, эканоміку, гісторыю, мовазнаўства і іншыя галіны навук, якія значна ўплываюць на прагрэс навукова-тэхнічны і грамадскі».

Быў час, калі навука развівалася даволі адасоблена ад практыкі. Пачынаючы з сярэдзіны мінулага стагоддзя, няспынна скарачаецца час паміж буйным навуковым адкрыццём і прымяненнем яго на практыцы. Па словах М. С. Гарбачова, на задачы навукі мы павінны сёння глядзець праз прызму патрабаванняў рашучага павароту яе да патрэб грамадскай вытворчасці, а вытворчасці—да навукі. На народную гаспадарку нацэлены многія даследаванні, што вядуцца ў навуковых установах Беларусі. Так, інстытуты і універсітэты рэспублікі падтрымліваюць кантакты з 600 прадпрыемствамі і арганізацыямі, акадэмічныя ўстановы—з 300 заводамі і вытворчымі аб'яднаннямі і з такой жа колькасцю галіновых даследчых інстытутаў.

Аб плённай садружнасці навукі і вытворчасці сведчаць яшчэ і такія лічбы: у адзінаццатай пяцігодцы ў рэспубліцы асвоены выпуск 1,2 тысячы новых важнейшых машын, абсталявання, прыбораў і вырабаў з палепшанымі тэхніка-эканамічнымі паказчыкамі. За пяцігодку ўведзена ў дзеянне каля 2,3 тысячы аўтаматычных і паточна-механізаваных ліній, звыш 4,7 тысячы прамысловых робатаў і маніпулятараў і многае, многае іншае.

На прыкладзе Беларусі добра відаць, што Савецкая дзяржава праяўляе пастаянны клопат аб развіцці нацыянальнай навукі, улічвае як запатрабаванні практыкі, так і запатрабаванні развіцця самой навукі. Акадэмік Л. Арцімовіч пісаў, што наша навука знаходзіцца на далоні дзяржавы і саграецца цяплом гэтай далоні.

**Д. БАБАК.**

## АКТУАЛЬНАЕ СЛОВА ВУЧОНАГА

# ЗА КІМ ПАЙШОЎ НАРОД

### (РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ Ў 1917 ГОДЗЕ)

Сямідзесяцігоддзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі наводзіць на роздум аб выбраным нашым народам гістарычным шляху, аб марах і мэтах, якія здзейсніліся. Здаецца, тут усё ясна і проста: народ пайшоў за тымі, хто меў перш за ўсё дакладную сацыяльную праграму, хто бачыў, якой будзе супольнасць нацый і народнасцей у новай, сацыялістычнай Расіі, — за партыяй камуністаў. Народ адкінуў імкненні буржуазных беларускіх партый да нацыянальнай самаізаляцыі, да такога дзяржаўнага ўтварэння, дзе па-ранейшаму панавала б сацыяльная няроўнасць, эксплуатацыя беднага багатым. А між тым і сёння беларускія буржуазныя нацыяналісты набіраюцца смеласці сцвярджаць, што нібыта «з дзвюх галоўных сіл» (бальшавікі і беларускі нацыянальны рух), якія існавалі ў Беларусі напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі і «адыгралі галоўную ролю ва ўзнікненні Беларускай ССР, толькі апошні меў падтрымку ў масах беларускага народа».

Што адбывалася на самай справе ў Беларусі напярэдадні Вялікага Кастрычніка, як гублялі свой аўтарытэт і пазіцыі ў народзе розныя нацыянальныя буржуазныя партыі і дробнабуржуазныя аб'яднанні і арганізацыі, пра гэта замалёўкі гісторыка **Мікалая СТАШКЕВІЧА.**

Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, як вядома, знішчыла царызм, які жорстка падаўляў нават самае нязначнае імкненне народа ў Расійскай імперыі да нацыянальнай самабытнасці. Тым самым ствараліся спрыяльныя ўмовы для ажыўлення, а затым і рэзкага ўздыму нацыянальна-вызваленчага руху ўсіх прыгнечаных народаў Расіі.

Гэты рух, аднак, быў неаднародным па свайму класаваму і палітычнаму складу, што і абумовіла паступовае размежаванне ў ім двух процілеглых напрамкаў — буржуазна-нацыяналістычнага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага.

Такія тэндэнцыі былі характэрны і для беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, які ўзмацніўся пасля звяржэння самадзяржаўя. Зразумела, гэты рух не быў такім вялікім, як украінскі, што сур'ёзна адбіўся на ўсіх падзеях таго часу. Аднак яго развіццё мела і свае спецыфічныя асаблівасці.

Да пачатку XX стагоддзя ў пяці губернях Паўночна-Заходняга краю (Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай і часткі Віленскай) пражывала прыкладна 7,5 мільёна чалавек, з іх 5 408 400 беларусаў. Першая сусветная вайна прынесла беларускаму народу цяжкія выпрабаванні. Летам 1915 года амаль чацвёртая частка Беларусі, дзе да вайны пражывала больш 2 мільёнаў чалавек, аказалася акупіраванай войскамі кайзераўскай Германіі. У ходзе вайны, паводле афіцыйных даных, яе межы пакінула больш за 1 130 тысяч чалавек. Асноўную масу бежанцаў склалі сяляне. Яны былі рассеяны па ўсёй тэрыторыі Расіі. Да пачатку 1917 года ў пяці беларускіх губернях — Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і часткі Віленскай — нягледзячы на значны адток насельніцтва, пражывала 5 023,3 тысячы беларусаў. Яны складалі тут кампактную большасць.

У параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі Беларусь характарызавалася адносна невысокім узроўнем развіцця капіталізму, паўсаматужнай, галоўным чынам рамеснага тыпу, прамысловасцю. Доля прамысловай прадукцыі ў народнай гаспадарцы складала тут у 1913 годзе 25 працэнтаў (супраць 42 працэнтаў у Расіі). Асноўнымі галінамі былі тэкстыльная, дрэваапрацоўчая, вінакурная, лясная, гарбарная, піваварная, мукамольная. Да пачатку 1914 года рабочы клас Беларусі налічваў 367 тысяч чалавек. (У гэтую колькасць уключаны рабочыя дробных прадпрыемстваў). З іх у цэнзавай прамысловасці, на чыгунцы працавала амаль 100 тысяч чалавек. Вайна нанесла значны ўрон прамысловасці Беларусі, што прывяло да скарачэння агульнай колькасці рабочага класа. Агульная колькасць пралетарыяту, занятага ў прамысловай вытворчасці на тэрыторыі Беларусі, не акупіраванай нямецкімі войскамі, у 1917 годзе склала 270 тысяч чалавек (на 100 тысяч менш, чым у перадваенны час). За гады вайны ў Беларусі ўзніклі буйныя ваенныя майстэрні, у якіх працавала каля 50 тысяч рабочых. Многія з іх былі кадравымі, яны прыбылі сюды па мабілізацыі з прамысловых цэнтраў Расіі і ў значнай ступені кампенсавалі страту ў колькасным складзе, якую панёс пралетарыят Беларусі ў выніку мабілізацыі ў армію.

Рабочы клас Беларусі аказваў вялікі ўплыў на шырокія масы працоўных. Іх рэвалюцыйная актыўнасць узрастала і пад уздзеяннем салдат Заходняга фронта, сярод якіх было многа рабочых з прамысловых раёнаў Расіі. У сілу гэтага рабочы клас стаў тым ядром, вакол якога пад кіраўніцтвам бальшавікоў ішоў працэс фарміравання палітычнай арміі сацыялістычнай рэвалюцыі. Ён аказваў істотны ўплыў і на ўзрастаючы беларускі нацыянальна-вызваленчы рух.

Слабое развіццё капіталізму ў Беларусі прывяло да вылучэння параўнаўча невялікай групы нацыянальнай прамысловай і гандлёвай буржуазіі. У пачатку XX стагоддзя з 80 тысяч сярэдніх і буйных прадпрымальнікаў і гандляроў у Паўночна-Заходнім краі, як тады называлася афіцыяльна Беларусь, нацыянальная буржуазія складала толькі 20 тысяч. Удзельная вага яе і ўплыў сярод пануючых класаў краю былі вельмі абмежаванымі. Значную праслойку ў шэрагах беларускай буржуазіі займала кулацтва (з 650 тысяч сялянскіх двароў 71 тысяча былі кулацкімі, г. зн. каля 11 працэнтаў усіх гаспадарак). Па эканамічнаму становішчу да сельскай буржуазіі блізка прымыкала фальварковая і засцянковая шляхта. Эканамічная слабасць і нізкі ўзровень культуры аграрнай буржуазіі прывялі да таго, што яе значная частка аказалася пад уплывам рускіх ці польскіх буржуазных партый і арганізацый. І ўсё ж яна, з кожным годам умацоўваючы сваё эканамічнае становішча, ператваралася ў тую сілу, якая імкнулася ўзначаліць беларускі нацыянальны рух. І хоць беларуская буржуазія як клас да перамогі лютаўскай рэвалюцыі не заявіла аб сабе ў поўны голас і заставалася палітычна не аформленай, аднак працэс яе фарміравання не спыняўся і праходзіў нават у гады першай сусветнай вайны. Ён прывёў да таго, што сярод прамысловай і фінансавай буржуазіі краю з'явілася значная колькасць прадстаўнікоў, якія лічылі сябе беларусамі. Сведчаннем гэтага з'яўляецца і зараджэнне такіх буржуазных арганізацый, як «Хрысціянская злучнасць», «Беларуская партыя народных сацыялістаў». Гэтыя арганізацыі аб'ядноўвалі вузкае кола асоб, і толькі пасля перамогі лютаўскай рэвалюцыі яны колькасна выраслі і на іх падставе ўзніклі буржуазна-нацыяналістычныя партыі.

У Беларусі шматлікім эксплуататарскім класам былі памешчыкі. Па перапісу 1897 года ў пяці паўночна-заходніх губернях пражывала 283 522 дваран (з сем'ямі), якія мелі больш чым 10 мільёнаў дзесяцін зямлі. Гэта складала каля палавіны ўсіх плошчаў беларускіх губерняў (44,8 працэнта). Сярод памешчыкаў таксама не было нацыянальнай аднароднасці. Значную колькасць іх складалі асобы польскай нацыянальнасці. І хоць у памешчыцкіх маёнтках захаваліся прыгонныя перажыткі (кабальныя адработкі сялян за арэнду зямлі), гаспадаранне ў іх у большасці выпадкаў вялося на капіталістычнай аснове. У. І. Ленін адносіў Мінскую, Гродзенскую і Віленскую губерні да тых губерняў, дзе пераважала капіталістычная сістэма гаспадаркі, а Віцебскую і Магілёўскую да тых, дзе пераважала змешаная сістэма.

Да пачатку 1917 года каля 80 працэнтаў беларускага насельніцтва складалі пралетарыят, паўпралетарыят, беднейшая частка беларускай вёскі, і толькі крыху больш 20 працэнтаў належала да эксплуататарскіх класаў. У вёсцы пражывала амаль 85 працэнтаў беларускага насельніцтва. У гарадах беларусы складалі меншасць — 14,5 працэнта, яўрэі — 53,9, рускія — 17,7, палякі — 11,6, іншыя — 2,7 працэнта. Гэта прадвызначыла і многанацыянальны склад пралетарыяту, які да таго ж быў распылены па дробных прамысловых і саматужных прадпрыемствах.

Незавершанасць працэсу ўстанаўлення капіталістычных адносін, наяўнасць перажыткаў феадалізму, засілле польскіх памешчыкаў, яўрэйскай буржуазіі ў эканоміцы краю, палітыка сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, якую праводзіла царскае самадзяржаўе, — усё гэта стварала сацыяльна-эканамічныя і палітычныя перадумовы для расшырэння класавых рамак беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Па сваіх формах гэты рух быў крайне разнастайны. Аграрны характар эканомікі краю вызначыў асноўны састаў нацыянальнага руху, яго складалі сяляне, а таксама дробнабуржуазныя элементы, якія вагаліся паміж пралетарыятам і буржуазіяй. Гэтыя класы змагаліся адзін з адным за кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчым рухам.

Сацыяльныя супярэчнасці, якія перапляталіся з нацыянальнымі, абвастрылі нацыянальна-вызваленчую барацьбу. Беларускі нацыянальны рух цесна пераплятаўся з агульнадэмакратычнай барацьбой працоўных, і таму знешне яго ўдзельнікі мелі агульныя рысы: яны былі зацікаўлены ў развіцці нацыянальнай культуры і мовы, у той ці іншай меры імкнуліся да стварэння нацыянальнай дзяржаўнасці. Натуральна, кожны клас хацеў укласці свой сацыяльны змест у характар і мэты беларускага нацыянальнага руху, падпарадкаваць яго свайму ўплыву. Але, як і ўсякі нацыянальны рух, ён ні ў праграмных, ні ў тактычных адносінах ніколі не быў аднародным. Пасля лютаўскай рэвалюцыі класавая і палітычная дыферэнцыяцыя ў іх яшчэ паглыбілася. Найбольшую актыўнасць праявіла буржуазна-нацыяналістычнае крыло, якое аб'ядноўвала прадстаўнікоў эксплуататарскіх класаў.

(Працяг будзе).

О ЧЕМ УМАЛЧИВАЮТ ЗАПАДНЫЕ ИСТОРИКИ

# БЫЛА ЛИ ОКТЯБРЬСКАЯ РЕВОЛЮЦИЯ СЛУЧАЙНОЙ?

«Ни одно событие не оказало большего воздействия на XX век, чем большевистская революция». Эти слова взяты не из советского учебника истории и вообще не из работы марксистской направленности. Они принадлежат авторам «Политического словаря по Советскому Союзу и Восточной Европе», изданного в США в 1984 году.

Казалось бы, данная оценка снимает вопрос, поставленный в заголовке. В самом деле, о какой случайности может идти речь в отношении события, решительным образом повлиявшего на ход современной истории? И все-таки в цитированном словаре говорится также, что Октябрьскую революцию 1917 года совершила «небольшая группа дисциплинированных радикалов», а страна, мол, была не готова к революционным преобразованиям. И это не единственное издание на Западе, где утверждается, что Россия была некапиталистической страной, в которой социальная база революции либо была крайне узкой либо отсутствовала вообще. В «Истории Советской России» (1985 год) американского профессора М. Дзевановского Октябрь именуется «заговорщицким переворотом», осуществленным «небольшим, хорошо организованным меньшинством», а французский социолог Ж. Эллюль называет его путчем «небольшой кучки людей». Путч — он и есть путч; его успех зависит не от остроты социальных противоречий, которые могут быть разрешены посредством революции, а от субъективных и случайных факторов.

Но действительно ли так обстояло дело в России к 1917 году?

Россия вступила на путь капитализма позже крупнейших западноевропейских держав и США, хотя шла по этому пути более быстрыми темпами. Особенно интенсивно в России начала XX века росли монополии. По степени монополизации русская промышленность, уступая германской и американской, превосходила английскую и французскую. Что касается концентрации промышленности, то в России она была еще выше, чем в Германии и США.

Разумеется, Россия по сравнению с Западной Европой и США была более отсталой страной в социальном, экономическом и политическом отношениях. Однако это не ослабляло, а усиливало противоречия и революционный потенциал в российском обществе. У пролетариата России рабочий день был длиннее, а заработная плата меньше, чем в других странах Европы. Крестьяне же в своем подавляющем большинстве не имели в достатке ни пахотной земли, ни инвентаря и батрачили на полях помещиков и кулаков, влача полуголодное существование.

Бедствия масс были усугублены первой мировой войной, в которой русские солдаты служили фактически пушечным мясом. В армии не хватало патронов, продовольствия, медикаментов. Солдаты гибли не только от пуль, но и от эпидемий. С каждым годом войны росла экономическая разруха и падал жизненный уровень людей. В начале 1917 года реальная заработная плата по стране в целом снизилась на 45—50 процентов. Еще труднее было безработным, число которых неуклонно росло. По неполным официальным данным, только с марта по июнь 1917 года были закрыты 568 предприятий и выброшены на улицу 104 372 человека. И это после февральской буржуазно-демократической революции, которая, как известно, свергла самодержавие!

Россия переживала острый кризис. Он дополнялся нежеланием «низов» мириться с нищетой и произволом привилегированных классов. Трудящиеся страны представляли не аморфную безликую массу, как часто изображается в западной литературе («в России рабочий класс вообще не был организованной силой»,— пишет, например, упомянутый Ж. Эллюль). Напротив: они создали разветвленную сеть политических и иных организаций для борьбы за свои права. Самой массовой организацией такого рода стали Советы, в состав которых к осени 1917 года были избраны более 20 миллионов человек. Рабочий класс создал также фабрично-заводские комитеты, Красную гвардию и рабочую милицию. Рабочие устанавливали свой контроль над производством и не стеснялись применять силу там, где хозяева предприятий были особенно неуступчивы.

После падения самодержавия крестьяне начали самочинно захватывать помещичьи земли. Хотя наблюдались и разгромы, поджоги усадеб, вызывавшиеся чувствами озлобления и мести, крестьяне нередко подходили к помещичьей земле с позиций экономической рациональности. Крестьянские Советы и земельные комитеты устанавливали таксу за работу на помещиков, брались за приведение в порядок запущенных хозяйств, отбирали у помещиков землю при невыполнении теми их условий.

Таким образом, наблюдалось явление, когда, как подчеркивал В. И. Ленин, «за время революции миллионы и десятки миллионов людей учатся в каждую неделю большему, чем в год обычной, сонной жизни». Главным уроком, который все более твердо усваивали трудящиеся по ходу событий 1917 года, было осознание необходимости дальнейших революционных перемен. Вслед за свержением царизма на повестку дня встал вопрос о свержении буржуазно-помещичьего Временного правительства. Почему? Потому что оно не принесло стране мира, не дало земли крестьянам, не покончило с эксплуатацией рабочих.

Лозунг «Вся власть Советам!», выдвинутый большевистской партией в сентябре 1917 го[illegible]был равносилен призыву к вооруж[illegible]ному восстанию и поистине отвечал интересам трудящихся классов и слоев. (Впервые этот лозунг был выдвинут в апреле 1917 года и в период двоевластия — Временное правительство и Советы, —то есть до начала июля, был направлен на мирн[illegible]развитие революции). На выбо[illegible]а руководящие органы Советов к этому времени большевики получили наибольшее количество голосов. Очень важное значение имело также то, что они располагали поддержкой примерно половины армии, в том числе 2/3 солдат и матросов тыловых гарнизонов. Во многих частях на вопрос: «Есть ли у вас большевики?» целые роты отвечали: «Мы все большевики».

Перечисленные выше факты известны западным историкам. Обострение революционной ситуации в России до грани национального кризиса, поддержка широкими массами большевистского лозунга «Вся власть Советам!», политическая организованность и революционная активность крупных отрядов промышленных рабочих, сельской бедноты, солдат и матросов — все это никак не вяжется с представлениями о случайности Октябрьской революции.

Концепции случайности и недемократичности Октября существуют столько лет, сколько существует Советская власть. Однако с помощью таких концепций невозможно понять, почему Советская власть выстояла в ожесточенной гражданской войне; почему страна, терпевшая в первой мировой войне поражения от кайзеровской Германии, нанесла во второй мировой войне решающие поражения Германии нацистской; почему та же страна, в которой до революции большинство населения не знало электричества, проложила человечеству дорогу в космос запуском первого искусственного спутника Земли сорок лет спустя...

Подобных «почему» можно приводить бесчисленное множество. И на них отвечают все 70 лет советской истории. Время глубоко раскрыло непреходящее значение Октября, высветило гигантские возможности, которые открывает социалистическое общественное развитие.

**Юрий ИГРИЦКИЙ,**
**кандидат исторических наук.**
**(АПН).**

МАРШРУТ ПРОТЯЖЕННОСТЬЮ 15 ТЫСЯЧ КИЛОМЕТРОВ

# ЭКСПЕДИЦИЯ В ЗАЩИТУ МИРА И ПРИРОДЫ

От Измаила до Якутска пройдут на судах участники экспедиции «Дунай—Лена-87», посвященной 70-летию Октябрьской революции в России и первого внешнеполитического документа Советской власти, ленинского Декрета о мире.

Около 100 человек — журналисты, врачи, юристы и художники, студенты, артисты, рабочие и ученые — совершают, используя свои отпуска, неярдовое даже по понятиям последней четверти XX века путешествие в защиту мира и природы. По маршруту протяженностью 15 000 километров (стартовав в мае, экспедиция финиширует только в сентябре) идут активисты московского общественного клуба «Путешествия в защиту мира и природы».

Созданный в апреле нынешнего года по инициативе «снизу» и при активной поддержке Советского комитета защиты мира, Всероссийского общества охраны природы, ряда других общественных организаций, творческих союзов и государственных ведомств, этот московский клуб собирает под своим гербом-символом тех, кто в путешествиях видит реальную возможность расширить круг борцов против военной угрозы, за сохранение природы, среды обитания человека. Членство в клубе открыто для всех, достигших 16-летнего возраста.

— Уже в первые недели пути по Дону и Волге мы получили десятки заявлений от конкретных людей с просьбой принять их в наш клуб. Это важный момент: ведь основная цель нашей экспедиции — привлечь внимание как можно большего числа людей самого разного возраста к тревожным и критически важным реалиям нашего времени. И побудить их к активным действиям в защиту [illegible]ра, природы, жизни, — говорит [illegible]оводитель экспедиции писатель В[illegible]им Бурлак.

Два слова о «родословной» самой экспедиции и организовавшего ее клуба «Путешествия в защиту мира и природы». Летом 1986 го[illegible] группа энтузиастов прошла на [illegible]сно-моторной исследовательской ш[illegible]е «Полярный Одиссей» более 2 000 километров вдоль берегов Белого моря. У экспедиции, в состав которой входил Вадим Бурлак, было много работы. Ее участниками был собран серьезный и большой по объему этнографический и фактологический материал; проведен целый ряд медико-биологических экспериментов, испытаны образцы туристского снаряжения.

Но самой важной стороной беломорской экспедиции, посвященной Международному году мира, ее участники считали встречи и дискуссии с жителями Крайнего Севера. Всего их было проведено более 100; конкретным итогом их стали как тысячи подписей в защиту мира, так и острые, критические статьи участников экспедиции, содержащие оценки экологического состояния края.

«Дунай—Лена-87», таким образом, можно рассматривать как логическое продолжение идей и дел «Полярного Одиссея».

Вот основной промежуточный итог первого месяца движения экспедиции по Черному и Азовскому морям, Дону и Волге: все три ее программы — миротворческая, научная и культурная — выполняются успешно. Антивоенные митинги, манифестации, встречи с общественностью, сборы подписей под воззванием в защиту мира, научно-журналистская конференция «Экология устья Дона», концерты, выставки книг, живописи, фотографии — так это выглядит на практике. Получая повсюду широкие возможности для встреч с аудиторией, участники экспедиции проявляют высокую активность и неизменно встречают понимание и поддержку своих благородных целей и задач. Сбор от всех платных мероприятий, проводимых экспедицией, поступает в Советский фонд мира.

К сентябрю суда должны будут, пройдя Северным морским путем, достичь Тикси: участники экспедиции планируют провести в этом северном порту крупную манифестацию, посвященную Всемирному дню мира.

**Валерий СЕНКЕВИЧ,**
**Олег АРТЕМЬЕВ.**

НОВЫЙ АППАРАТ ПОМОГАЕТ НАРАЩИВАТЬ КОСТЬ БЕДРА

# *БЕЗ ПРИМЕНЕНИЯ ЛЕКАРСТВЕННЫХ ПРЕПАРАТОВ*

От рождения у Марии И. отставал рост кости бедра. К совершеннолетию разница достигла семи сантиметров. И хотя мама возила ее ко многим специалистам, предпринимать что-то конкретное они воздерживались: известные методы наращивания кости эффективны прежде всего при исправлении дефектов голени. Что же касается бедра, то здесь есть большие сложности — кость запрятана в толстом мышечном «футляре».

Вылечить Марию удалось в Центральном институте травматологии и ортопедии (г. Москва). Была проведена операция с использованием аппарата, разработанного хирургом доктором медицинских наук Александром Блискуновым.

Пока таких операций немного. Но результаты обнадеживают. Новый аппарат позволяет наращивать кость практически без потери функции сустава на семь-десять сантиметров. И это не предел. Причем после операции пациенты уже через две-три недели могли проводить курс лечения дома, не испытывая особых неудобств или неприятных ощущений от присутствия аппарата. Они совершали длительные прогулки, даже плавали. Словом, вели привычный образ жизни.

Еще недавно любой травматолог сказал бы, что это невозможно. Но смелая научная идея изменила многие традиционные представления о возможном и невозможном.

Что представляет собой новый аппарат? Стержень диаметром двенадцать миллиметров напоминает штатив-опору для фотоаппарата. Стержень через верхний конец бедра вводится в канал кости, после чего в ней закрепляется. А для того чтобы кость росла, стержень в процессе лечения плавно выдвигается с помощью специального храповичка, работающего по принципу домкрата. «Ручка» домкрата крепится к тазовой кости. Несколько десятков «подкачиваний» (делается это усилиями самого больного — отведением ноги в сторону) — и в день прирост кости достигает 0,5—2 миллиметров, в месяц — двух-четырех сантиметров. Итак, весь процесс совершается механически, без применения лекарственных препаратов.

Чтобы такие операции стали реальностью, Александру Блискунову и его коллегам потребовались годы труда, годы исследований и расчетов, экспериментальной проверки, создания надежных инструментов. Таких инструментов никогда прежде не было, их тоже пришлось изобретать. Оригинальность новых конструкций подтверждена авторскими свидетельствами, которых, кстати, на счету Александра Блискунова около шестидесяти.

Итак, новшество, предложенное ученым, существенно повышает эффективность лечения травм и различных заболеваний бедра. Но, как выяснилось, возможности предложенного метода оказались еще шире. Подобно созданным конструкциям разрабатываются аппараты для исправления искривлений позвоночника, удлинения плеча и голени. По мнению специалистов, их совершенствование приведет к тому, что удлинять кости можно будет при самых различных заболеваниях и травмах: после полиомиелита, из-за преждевременного прекращения роста костей, для исправления переломов, сросшихся с укорочением, врожденных вывихов и других.

**Анатолий ГАТИЛОВ.**

## ЭКСКУРСІЯ ПА СТАРАЖЫТНАМУ ГОРАДУ

# МАЯ СПАДЧЫНА

*ДА 1125-годдзя З ДНЯ ЗАСНАВАННЯ ПОЛАЦКА*

### СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Нядаўна давялося пабываць у навуковай камандзіроўцы ў горадзе Полацку. Вельмі вялікія ўражанні пакінула гэта паездка: са старажытнымі помнікамі на паўночным захадзе Кіеўскай Русі — полацкіх землях — сустрэўся ўпершыню.

Верхні замак — Замкавая гара — самая старажытная частка Полацка. Стаю на вузенькай лесвіцы на Верхнім замку, а злева і справа ад мяне раскінуўся Полацк стары і малады. Хто б ні прыехаў сюды ўпершыню, абавязкова прыходзіць на Замкавую гару. Гэта гістарычны цэнтр горада.

Як мяркуюць гісторыкі, Полацкае княства ўтварылася ў X стагоддзі і займала тэрыторыю сучасных Віцебскай, паўночных частак Мінскай і Магілёўскай абласцей.

Найвышэйшага росквіту княства дасягнула ў другой палове XI стагоддзя пры Усяславе Брачыславічы (1044—1101 гады). Пры ім яно набыло палітычную сілу і адпаведны аўтарытэт на Русі. З гэтым вымушаны былі лічыцца ўсе: і Кіеў, і Ноўгарад, і Чарнігаў. А каб паказаць, што Полацк не горшы за іншыя гарады, на высокім плато Верхняга замка паміж 1044 і 1066 гадамі ўзводзіцца трэці на Русі храм Сафіі — сімвал моцы і магутнасці Полацкай зямлі.

Сафійскі сабор становіцца месцам не толькі духоўнага, але і дзяржаўнага жыцця Полацкага княства. У ім прымалі паслоў, абвяшчалі пра вайну і мір, захоўваліся дзяржаўная казна, бібліятэка, архіў. Мяркуюць, што пры саборы была школа, дзе пісалі кнігі, працавалі іканапісцы і майстры прыкладнога мастацтва. За сваю шматвяковую гісторыю помнік быў сведкам буйных гістарычных падзей. Нягледзячы на перабудовы і разбурэнні старажытнага храма, тое, што захавалася да нашых дзён, гаворыць аб прастаце і велічы рускай архітэктуры.

У перыяд найвышэйшага эканамічнага і палітычнага ўздыму Полацкага княства на аснове творчай перапрацоўкі антычнай архітэктуры Візантыі сфарміравалася Полацкая архітэктурная школа дойлідства, якая ў канцы XII стагоддзя атрымала выразныя нацыянальныя рысы, самабытны творчы почырк і зрабіла вялікі ўплыў на развіццё старажытнарускай архітэктуры. Майстры як ў пабудовах адышлі ад традыцый візантыйскай архітэктуры і стварылі новы тып кампактнага храма — Спаса-Ефрасіннеўскую царкву (паміж 1152—1161 гадамі). Пераходзячы з рук у рукі ад езуітаў і праваслаўных, яна разбуралася, нягледзячы на тое, што падначалялася кладкай апошніх стагоддзяў, але без змянення ў агульным выглядзе дайшла да нашых дзён.

Высокага ўзроўню ў гэты час дасягнула пісьменнасць і прыкладное мастацтва. У Полацку пры Спаса-Праабражэнскім манастыры дзейнічала школа, дзе быў створаны першы на Беларусі літаратурны біяграфічны твор «Жыціе Ефрасінні Полацкай» і першы гістарычны твор — Полацкі летапіс, прысвечаны, як мяркуюць даследчыкі, гісторыі Полацкай зямлі.

Пасля смерці Усяслава Брачыславіча Полацкае княства пачало драбіцца. У першай палове XII стагоддзя з яго вылучыліся ўдзельныя княствы: Ізяслаўскае і Мінскае, у другой — Друцкае, Віцебскае, Лагожскае і іншыя. Палітычнае жыццё княства ў гэты час характарызавалася барацьбой баярскіх груповак, зменай князёў, выступленнямі гараджан. Вялікае значэнне набыло полацкае веча, дзейнасць якога феадальная знаць накіроўвала ў сваіх інтарэсах. Але і ў гэты час Полацк заставаўся буйным палітычным цэнтрам.

З сярэдзіны XIII стагоддзя Полацкая зямля знаходзіцца пад уплывам Літвы, а ў першай чвэрці XIV уваходзіць у склад Вялікага княства Літоўскага, дзе захавала прывілеяванае, у параўнанні з іншымі беларускімі землямі, дзяржаўна-прававое становішча. Вярхоўная ўлада ставіла тут сваіх васалаў — князёў, але гарантавала тэрытарыяльную непадзельнасць, недатыкальнасць уладанняў тутэйшых феадалаў і мяшчан, іх правы і прывілеі.

Многае давялося пераяжыць Полацку за сваю доўгую гісторыю. У 1553 годзе па асабістаму загаду Івана IV Грознага ў час вайны з Лівоніяй за вельмі кароткі час яго жыхарамі быў створаны моцны земляны вал — Ніжні замак, які служыў перашкодай для іншаземных захопнікаў, што неаднаразова спрабавалі прабіцца праз Полацк у глыбіню краіны. У 1579 годзе горад штурмам браў кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый. Помніць горад і кровапралітныя баі рускіх войск з часцямі арміі Напалеона. У Айчынную вайну 1812 года тут дзейнічалі партызаны. Пры ўдзеле мясцовых партызан горад быў вызвалены ад французскіх захопнікаў. Да нашых дзён адзін з мастоў праз раку Палату называецца «Чырвоным». Чырвонай была пад ім вада ад рускай і варожай крыві ў дзень вызвалення горада.

У другой палове XVII—першай палове XVIII стагоддзяў ад войнаў Полацк занепаў. Далейшае ажыўленне гаспадарчага жыцця горада было звязана з уключэннем яго ў сістэму ўсерасійскага рынку, пашырэннем гандлёвых сувязей са Смаленскам, Масквой і іншымі гарадамі краіны.

У XIX стагоддзі ў горадзе ў асноўным пераважала рамесная вытворчасць. Значнае месца ў эканамічным развіцці займаў гандаль.

У першую сусветную вайну Полацк з'яўляўся прыфрантавым горадам. У сакавіку 1917 года тут быў створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, адбыліся другі і трэці з'езды салдат 3-й арміі Заходняга фронта.

...Моўчкі пазіраю на цемнаватую ваду рэчкі Палаты, у плыні якой хаваецца сама Памяць. Па яе берагах некалі хадзіў геніяльны мастак-ювелір Лазар Богша, прагны да навук і паэзіі, грамадскі і царкоўны дзеяч Сімяон Полацкі, праслаўлены на ўвесь славянскі свет беларускі першадрукар, вучоны, асветнік эпохі Адраджэння Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі. Гэта старажытная рака — нямы сведка падзей, што адбываліся тут і ў час апошняй вайны.





### ГОРАД СЁННЯ

Спыняюся на стромым беразе Дзвіны і гляджу на раскінуты над ракой горад. Шырокія, прамыя вуліцы яго то спускаюцца да рэчкі, то ідуць паралельна ёй. Сівая даўніна мірна ўжылася тут з сучаснасцю.

Галоўная магістраль сённяшняга Полацка—праспект К. Маркса аб'ядноўвае асобныя раёны горада ў адзіную сістэму.

Наш Полацк — гэта буйны прамысловы, адміністрацыйны і культурны цэнтр Віцебскай вобласці. Тут выпрацоўваюцца сельскагаспадарчыя машыны, маторы, шклотканіна, мэбля, будаўнічыя матэрыялы, швейная прадукцыя, тавары культурна-бытавога прызначэння.

Як і раней, культурным цэнтрам горада застаецца Сафійскі сабор. Пасля рэстаўрацыі ў ім адкрылася канцэртная зала, дзе адбываюцца выступленні праслаўленых артыстаў і музыкантаў.

Вуліцы, як промні, разбягаюцца ад Сафійскага сабора.

Па Замкавым завулку можна спусціцца да Ніжняга замка. На рагу вуліцы Горкага з Замкавым завулкам знаходзіцца будынак былога Езуіцкага калегіума. (Цяпер тут медыцынская ўстанова). Ён быў заснаваны ў 1581 годзе П. Скаргам як сярэдняя навучальная ўстанова пераважна філалагічнага тыпу. У пяці класах тут выкладаліся лацінская і грэчаская мовы, старажытная літаратура, стылістыка, паэтыка і свяшчэннае пісанне. У свой час у акадэміі вучыліся беларускі і польскі пісьменнік Я. Баршчэўскі, археолаг К. Тышкевіч.

Адна з самых старых і прыгожых вуліц горада (яна цягнецца па правабярэжжы ракі) носіць імя Леніна. Тут звяртаюць на сябе ўвагу помнікі XVII—XVIII стагоддзяў — будынкі былой Брацкай школы і Богаяўленскага сабора. Богаяўленскаму сабору пашчасціла раней за іншыя помнікі вярнуцца да жыцця. У 1979 годзе па праекту архітэктара В. Слюнчанкі сабор быў адрэстаўраваны, і цяпер у ім дзейнічае адна з лепшых у рэспубліцы карцінных галерэй, дзе адбываюцца рэспубліканскія выстаўкі і выстаўкі майстроў мастацтва Полаччыны.

У XVII стагоддзі пры Богаяўленскім манастыры існавала Брацкая школа, або, як называюць яе даследчыкі, дом Сімяона Полацкага. Разам з Богаяўленскім саборам будынак былой Брацкай школы ўтварае адзіны архітэктурны комплекс. Да 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны тут мяркуецца адкрыць музей беларускага кнігадрукавання, у стварэнні якога самы актыўны ўдзел прымае грамадскасць горада, мясцовыя калекцыянеры, бібліяфілы.

Тут жа, на вуліцы Леніна, ёсць яшчэ адзін арыгінальны будынак — лютэранская кірха, у якой цяпер гарадскі краязнаўчы музей. А насупраць яго, толькі на тым беразе Дзвіны,— музей баявой славы, экспазіцыя якога расказвае аб змаганні палачан з фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Побач узвышаецца Курган Бессмяротнасці.

Гляджу на горад і ўяўляю, што недзе вышэй па Палаце самая старажытная яго частка — гарадзішча. Недалёка ад яго рэстаўратары працуюць цяпер над адным з храмаў Спаскага комплексу — Крыжаўздзвіжанскім. Вышыня цэнтральнага купала храма з сучасны дзевяціпавярховы дом. Гэты велічны будынак пануе над усім наваколлем. Пасля рэстаўрацыі ў ім плануецца зрабіць гарадскі планетарый.

Рашэннем урада рэспублікі ў Полацку створаны першы і адзіны пакуль у Беларусі гісторыка-археалагічны запаведнік, які стаў паўнапраўным гаспадаром старой часткі горада.

Стварэнне запаведніка дае магчымасць для каардынацыі ўсёй работы па далейшым вывучэнні і аднаўленні помнікаў мінулага, шырокай іх прапагандзе. Акрамя таго, запаведніку нададзены вялікія правы па захаванню цэласнасці гістарычнай часткі горада, якая ўвайшла ў яго склад. Вызначаны таксама ахоўныя зоны горада, межы рэгулявання забудовы, дзе любыя будаўнічыя работы можна пачынаць толькі пасля спецыяльнага дазволу кіраўніцтва запаведніка, пры ўмове папярэдняга правядзення тут археалагічных і іншых навуковых даследаванняў.

Пасля рэстаўрацыі ўсіх помнікаў Полацкаму гісторыка-археалагічнаму запаведніку мяркуюць даць больш дакладную назву — гісторыка-архітэктурны.

Расце Полацк. Дом за домам, квартал за кварталам. Даўно знівеліравана тэрыторыя Ніжняга замка. Цяпер тут стадыён. Забудаваны Верхні пасад. Паступова зносіцца Запалоцце, дзе будуецца новы мікрараён. Па распрацаваным раней генеральным плане развіцця горада паміж Верхнім і Ніжнім замкам павінна была прайсці аўтамагістраль. Але па патрабаванню грамадскасці работы тут сёння прыпынены. Распрацаваны новы план будаўніцтва аўтамагістралі, якая пройдзе за тэрыторыяй старога горада.

Так, і сённяшні дзень небеспраблемны. Вялікую заклапочанасць выклікае сітуацыя з царквой Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, унікальным помнікам XII стагоддзя (царква дзейнічае), дзе дасюль яшчэ не пачаліся работы па рэстаўрацыі будынка і фрэсак.

Хутка бяжыць час. Сёлета ў ліпені горад адзначыў 1125-годдзе свайго заснавання. На вялікае свята, якое адбылося з такой нагоды, прыехалі госці з далёкіх і блізкіх краёў, каб пакланіцца велічы слаўнага горада, таленту яго былых і цяперашніх жыхароў.

**Віктар САКОВІЧ.**



**НА ЗЫМКАХ: сёння Сафійскі сабор стаў музеем, археалагічным запаведнікам. Экскурсавод Галіна РАКОЎСКАЯ расказвае навучэнцам Язнеўскай школы аб архітэктуры сабора; ганаровы грамадзянін Полацка Георгій ПЯТРОЎ з унучкай Святланай. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён быў сакратаром Полацкага падпольнага райкома партыі; паказаць у малюнках прыгажосць свайго горада імкнуцца студэнткі мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута Алена КРЫСЕВІЧ і Наталля МАЛЕЦКАЯ.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

**РАСУЛ ГАМЗАТАЎ: «НАШЫ ПЕСНІ СТАЛІ ЧУТНЫ ДАЛЁКА, І МЫ ЧУЕМ ПЕСНІ ДАЛЁКІХ НАРОДАЎ»**

# З ВЫШЫНІ ПРАЖЫТАГА

70 год назад у Расіі адбылося злучэнне сацыялізму з культурай. Сёння з вышыні мінулых год лепш і ясней відаць тыя несумненныя дасягненні і тыя пралікі, якія суправаджалі савецкае мастацтва на яго цяжкім, невядомым яшчэ шляху. Але галоўнае, што сёння без усялякіх агаворак, з усёй адказнасцю можна сцвярджаць: гэты шлях быў дарогай наперад.

Перад самай рэвалюцыяй 1917 года спецыялісты спрачаліся аб тым, колькі спатрэбіцца год, каб ператварыць непісьменную Расію ў пісьменную краіну. Для еўрапейскай часткі называўся тэрмін 250 год, для азіяцкіх ускраін... 4 600. Сацыялістычная рэвалюцыя ліквідавала непісьменнасць па ўсёй краіне за два дзесяцігоддзі.

У дарэвалюцыйнай Расіі многія народы і народнасці не мелі сваёй пісьменнасці, прафесійнага мастацтва. Літаратура выдавалася на 13 мовах. Толькі ў 9 народаў меліся прафесійныя трупы, якія ставілі спектаклі на нацыянальных мовах. Пасля Кастрычніка 50 народаў атрымалі пісьменнасць. Мастацкія творы публікуюцца на 89 мовах, спектаклі ставяцца на 47. Напрыклад, у Казахстане тэатра да рэвалюцыі не было ўвогуле. Сёння тут функцыяніруюць 36 прафесійных тэатральных калектываў.

Да сацыялістычнай рэвалюцыі эстонцы не мелі ўяўлення аб культуры ўзбекаў, туркмены—аб грузінскай культуры. Сёння дзякуючы злучэнню культуры з сацыялізмам кожнае нацыянальнае мастацтва папаўняецца не толькі з уласнай крыніцы, але і чэрпае з духоўнага багацця іншых. Як сказаў аварскі паэт Расул Гамзатаў: «Нашы песні сталі чутны далёка, і мы чуем песні далёкіх народаў. Вякамі нашы нацыі і народы былі адарваны адзін ад аднаго, цяпер нас не разлучыць нікому».

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя стварыла мастака новага тыпу, іншай, чым раней, сацыяльнай арыентацыі, іншага светапогляду. Да голасу творчай інтэлігенцыі прыслухоўваюцца кіраўнікі ўсіх рангаў. Яе прэстыж надзвычай узрос і працягвае ўзрастаць. Асабліва гэта прыкметна цяпер, у перыяд перабудовы. Пісьменнікі, кінематаграфісты, тэатральныя дзеячы адыгрываюць тут усё больш актыўную ролю.

Культуролагі сцвярджалі і яшчэ сцвярджаюць, што народныя масы не ў стане спасцігнуць высокае мастацтва. І таму так званая «масавая культура» для іх карысць: лепш ужо гэта, чым нічога. Рэвалюцыя 1917 года паказала свету і даказала скептыкам, што просты народ здольны спасцігнуць няпростае мастацтва, сапраўдную літаратуру, сур'ёзную музыку.

Характэрна, што яшчэ ў 1918 годзе, у час яраснай барацьбы з контррэвалюцыяй, у гады голаду і разбурэння ўпершыню ў Расіі ў друкарні ў Самары (цяпер Куйбышаў) друкавалася ў рускім перакладзе лірычная аўтабіяграфія Дантэ «Новае жыццё». Амерыканскі журналіст Джон Рыд адзначаў, што «новая Расія паглынае друкаваны матэрыял з такой жа ненасытнасцю, з якой сухі пясок убірае вільгаць». Не выпадкова сёння наша краіна займае першае месца ў свеце [illegible]чаведвальнасці тэатраў [illegible]анцэртных залаў.

Сацыялістычная рэвалюцыя недвухсэнсава выказала свае адносіны да духоўнай спадчыны. СССР—першая краіна, якая стварыла адзіную дзяржаўную сістэму [illegible]ховы рэліквій мінулага [illegible]т таксама ўпершыню ў су[illegible]етнай практыцы з'явіліся паняцці ахоўнай зоны і зон рэгулявання забудовы. Вядома, з якой увагай ставіўся да аховы помнікаў У. І. Ленін, колькі ён асабіста зрабіў для выратавання культурнай спадчыны. Але «левакам» усіх масцей, архірэвалюцыянерам ад культуры (у тым ліку і прадстаўнікам так званага «рускага авангарда») насуперак ленінскім ахоўным дэкрэтам удалося разбурыць нямала палацаў і храмаў. І ў перыяд культу асобы Сталіна помнікі часам разбураліся.

На жаль, рэцыдывы нігілістычных тэндэнцый напамінаюць пра сябе і па сёння. Аднак сёння знесці будынак, які мае нават малую гістарычную каштоўнасць, зусім нялёгка. Людзі выходзяць на вуліцы, перашкаджаючы будаўнікам. Відавочна, што публічнасць дапаможа вырашыць гэтую вострую праблему—строга і заўсёды захоўваць законнасць.

Цяперашняя перабудова ў культуры—гэта перш за ўсё стварэнне цікавых кніг, п'ес, фільмаў. Твораў, патрэбных народу, людзям. Такія кнігі, фільмы, п'есы з'явіліся. Іх глядзяць, іх чытаюць, пра іх гавораць. Змянілася сама атмасфера ў мастацтве, стала больш сацыялізму і менш бюракратызму, больш творчасці і менш перастрахоўкі.

Новы падыход да праблем культуры базіруецца на ідэях Кастрычніка і далейшым развіцці ленінскіх прынцыпаў адносін да мастацтва. Гэты падыход, заснаваны на далейшай дэмакратызацыі, ужо прывёў да ўражальных вынікаў. У чым яны? На гэтае пытанне вельмі выразна адказаў вядомы драматург Міхаіл Рошчын. «Давайце,—сказаў ён,—на секунду ўявім, што ўсё вярнулася да таго, як было два гады назад. І вось тады становіцца відавочнай тая дыстанцыя, якую мы прайшлі за гэты час».

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## *НАШ КАЛЯНДАР*

*ЗДЗІСЛАВУ СТОМЕ — 80 ГАДОЎ*



Імя Здзіслава Стомы—сярод зорак першай велічыні ў купалаўскім тэатры. Ён адзін з тых, хто праславіў яго сцэну, упісаўшы ў гісторыю нацыянальнага тэатра некалькі радкоў «сваім адметным почыркам». Акцёрам рэдкага камедыйнага даравання, надзвычай шырокага творчага дыяпазону лічаць народнага артыста СССР З. Стому мастацтвазнаўцы. У яго «паслужным спісе» вельмі розныя, непадобныя ролі—Быкоўскі ў «Паўлінцы», Бураўчык у «Канстанціне Заслонаве», Лявон у «Лявонісе на арбіце», Глушак у «Людзях на балоце», Епіходаў у «Вішнёвым садзе», Белагубаў у «Даходным месцы», Бенволіо ў «Рамэо і Джульеце»...

Яго маладосць супала з гадамі станаўлення Савецкай улады, будаўніцтва сацыялізму ў краіне. Семнаццацігадовага хлопца пацягнула на сцэну, у рабочы клуб, дзе складаў і сам выконваў куплеты на злабадзённыя тэмы, выкрываючы ў іх гультаёў, парушальнікаў дысцыпліны. Пасля сканчэння драматычнай студыі пры Польскім вандроўным тэатры БССР працаваў у польскіх тэатрах БССР і УССР, потым у Беларускім тэатры юнага гледача імя Н. Крупскай, а з 1940 года—у купалаўскім тэатры. З таго часу і да сённяшняга дня яго лёс цесна звязаны з гэтым тэатрам. За патрыятычную дзейнасць у гады Вялікай Айчыннай вайны (шматлікія канцэрты і спектаклі перад байцамі, на прадпрыемствах) артыст З. Стома быў узнагароджаны медалём і ганаровымі граматамі.

З. Стома, які атрымаў выдатную школу акцёрскага майстэрства ў Е. Міровіча, Б. Платонава, Г. Глебава, ішоў у мастацтва сваім шляхам, ніколі не падрабляючыся пад вялікіх і прызнаных. У тэатр ён прыйшоў даволі маладым чалавекам, але з ярка акрэсленай грамадзянскай пазіцыяй, пэўным працоўным вопытам—не толькі каб проста панаваць на сцэне ў бляску свайго майстэрства, але каб і змагацца са сцэны за лепшае ў чалавеку. Акцёр, народжаны [illegible]вым ладам жыцця, стварае на сцэне розныя вобразы, дакл[illegible] акрэсліваючы іх сацыяльную сутнасць. З. Стома працуе вельмі многа, аддаючы ўсяго сябе тэатру. Віртуознае майстэрства, творчая і грамадзянская прынцыповасць вылучаюць яго ў лік вядучых беларускіх акцёраў. Ён дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Нягледзячы на сваю, здавалася б, поўную занятасць, Здзіслаў Францавіч па вечарах займаецца з моладдзю ў самадзейных гур[illegible]х, ставіць з імі спектаклі, дзеліцца вопытам.

За заслуг[illegible]развіцці савецкага тэатральнага мастацтва і ў сувязі з васьмідзесяцігоддзем з дня нараджэння народны артыст СССР З. Стома ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.

**НА ЗДЫМКУ: Здзіслаў СТОМА з жонкай Галінай Вікенцьеўнай.**

**З КАРОТКАГА ПАДАРОЖЖА НА НАВАГРУДЧЫНУ**

# ПАСАДЗІЦЬ ДРЭВА, ВЫХАВАЦЬ ЧАЛАВЕКА

ГЭТА была зусім кароткая паездка на любую Навагрудчыну, сустрэчы з якой чакаю заўсёды з хваляваннем. Можа таму, што прайшлі тут шчаслівыя і бесклапотныя школьныя гады. Да людзей, якія былі тады побач — настаўнікаў, таварышаў-аднакласнікаў, — захавала найлепшыя сардэчныя пачуцці.

Да настаўніка, у школу, толькі не ў Навагрудскую, а ў Валеўскую, і накіроўвалася я той свежай чэрвеньскай раніцай, калі яркае сонца залівала лугі, расквечаныя рознакаляровымі краскамі, награвала роўную шырокую стужку асфальта, рабіла такой жаданай прахалоду прыдарожнага лесу.

Валеўка—даволі вялікая вёска ў 17 кіламетрах ад Навагрудка і ўсяго за чатыры кіламетры ад авеянага легендамі, трывала знітаванага з імем вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча возера Свіцязь.

«Свіязць» называецца і калгас, цэнтр якога знаходзіцца ў Валеўцы. І як цяпер, бадай, у кожным такім цэнтры, ёсць тут і Дом культуры, і бібліятэка, і бальніца, і камбінат бытавога абслугоўвання, аддзяленне сувязі, сталовая, магазіны і, канешне ж, школа. Яна стаіць на ціхай зялёнай вясковай вуліцы. Прывычна для нас, натуральна для сённяшняга нашага дня, што вясковыя школы ні па знешняму выгляду, ні па падрыхтоўцы вучняў не адрозніваюцца ад гарадскіх. І ўсё ж, калі стаіш на прасторным двары Валеўскай школы паміж яе старым і новым будынкамі, забываеш, што ты ў вёсцы.

Адразу пасля вайны школа займала невялікі нізенькі дом. У 1952 годзе яна перасялілася ў новы, ужо ў некалькі паверхаў. Але час ішоў, і ў ім стала цесна. Новае абсталяванне патрабавала іншага памяшкання, колькасць дзяцей пабольшала. Тады і ўзвялі новы белакаменны будынак з вялізнымі вокнамі, шырокімі калідорамі, зручнымі класамі. А ў старым—цяпер краязнаўчы музей, які ў дзень, бывае, наведвае да трохсот чалавек. Прыходзяць турысты або адпачываючыя з пансіяната, які размясціўся на беразе возера Свіцязь.

Адзін з раздзелаў музея прысвечаны Валеўскай школе, яе гісторыі, тым пераўтварэнням, якія з ёю адбываліся. Школе больш за сто гадоў. У 1869 годзе тут была адкрыта невялікая царкоўнапрыходская, у якой вучыліся 34 хлопчыкі і адна дзяўчынка. Выкладанне вялося на рускай мове. Дзяцей вучылі закону божаму, рускаму і царкоўнаславянскаму чытанню, пісьму і арыфметыцы.

У 1922 годзе ў Валеўцы адкрылі польскую школу, навучанне вялося на польскай мове. Аднак, як сведчаць музейныя дакументы, сяляне імкнуліся вучыць дзяцей роднай мове, выкарыстоўвалі буквар Паўловіча і беларускія газеты, што выдаваліся ў Вільні.

Дзве лічбы з мінулага. У 1938 годзе ў школе працавала ўсяго тры настаўнікі. Шэсцьдзесят працэнтаў мясцовага насельніцтва заставалася непісьменным.

Сёння ў Валеўскай школе сотні вучняў і дзесяткі настаўнікаў. І можа, адным з галоўных здабыткаў гэтай сельскай школы з'яўляецца тое, што вучацца ў ёй дзеці на роднай беларускай мове. Сярод выпускнікоў школы людзі самых розных прафесій. Жывуць яны і ў Валеўцы, і ў наваколлі, і за тысячы кіламетраў ад яе.

У 60-я гады завучам у школе працаваў Міхаіл Петрыкевіч, прыроджаны педагог, дзецям і любімай справе адданы да самазабыцця. Гавораць, што каб апраўдаць свой прыход на зямлю, чалавек павінен пасадзіць дрэва, вырасціць сына, пакінуць вучняў. Усе мы ведаем гэты мудры запавет, але не кожнаму выпадае шчасце яго здзейсніць. Міхаіл Фёдаравіч здзейсніў. Зараз заслужаны настаўнік Беларускай ССР М. Петрыкевіч на пенсіі, жыве ў Дзятлаве, а ў школе, дзе доўгія гады вучыў дзяцей, яго памятаюць. «Па спецыяльнасці ён быў літаратарам, а па душы садаводам», —сказаў пра Міхаіла Фёдаравіча яго калега Уладзімір Урбановіч. Да Уладзіміра Аляксандравіча мы і ехалі ў Валеўку, каб пачуць расказ пра Петрыкевіча, паглядзець незвычайны для гэтых мясцін дэндрарый, які закладваў і кожнае дрэўца разам з вучнямі выходжваў Міхаіл Фёдаравіч. Ад школьнага двара парк аддзяляюць дзве сажалкі. Іх выкапалі пад густымі дрэвамі ў забалочанай нізінцы, яны прыдалі мясціне адметнасць і хараство. У парку звыш 200 дрэў розных парод. Прыжыліся тут амурскі аксаміт, японская айва, маньчжурскі арэх, каўказская піхта, чырваналістая яблыня, гімалайскі бэз, 12 відаў розных вербаў... Вялікую дапамогу аказаў тады школе мінскі батанічны сад, а потым вучні дапамагалі саджанцамі і мясцоваму лясніцтву.

Ідэя стварэння краязнаўчага музея пры школе належала таксама М. Петрыкевічу. Дапамагаў яму заслужаны настаўнік БССР гісторык Васіль Ускоў, які і цяпер тут працуе, водзіць экскурсіі. А літаратурны раздзел стварыў Уладзімір Урбановіч. Як выкладчыку беларускай мовы і літаратуры, было яму гэта найбольш блізка. Бадай, усе важнейшыя падзеі культурнага жыцця Гродзеншчыны ад часоў даўнейшых і да нашых дзён адлюстраваны на стэндах гэтага раздзела. Сабраны звесткі пра вучоных, асветнікаў, пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў наднёманскім краі. Згадваюцца У. Сыракомля і К. Каліноўскі, А. Міцкевіч і Я. Чачот, Я. Брыль, Н. Тарас, В. Таўлай, М. Васілёк і многія, многія іншыя.

Сам Уладзімір Урбановіч—краязнавец-даследчык. У вёсцы Пудзіна, адкуль ён родам, зрабіў больш за 400 фальклорных запісаў. Яго пяру належаць дзве кніжкі: «Шляхамі паэтаў і герояў» і «Па дарагіх мясцінах». У іх адлюстраваліся тыя падарожжы, якія рабіў ён разам са сваімі вучнямі ў час летніх канікулаў. Шляхі іх пралягалі па дарагіх для кожнага беларуса мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю вялікага беларускага паэта Якуба Коласа. Настаўнік знаёміў дзяцей з іх Радзімай, з яе таямніцамі і багаццем, з яе славутымі мясцінамі і выдатнымі людзьмі, і тым самым выхоўваў вялікую любоў да яе.

**Дз. ЧАРАПОВІЧ.**

# крынічка

Казімір КАМЕЙША

## АДКУЛЬ ПРЫЙШОЎ ГЛІНЯНЫ ПЕЎНІК

Некалі ў дзяцінстве падарылі мне глінянага пеўніка. Ах, што гэта быў за пеўнік!.. Статны, яркахвосты, з пышным грабянцом. А як свістаў ён! Прыкладзеш да вуснаў—і адразу ліецца яркі, густавата-цёплы галасок. А пачнеш перабіраць пальцамі па дзвюх адтулінах збоку—голас пераломіцца, як быццам перабяжыць з берага на бераг, а то і зусім рассыплецца на дробныя падгалоскі.

Доўга не ведаў я, адкуль прыйшоў да мяне гліняны пеўнік. І вось аднойчы даведаўся. Хачу расказаць пра гэта і вам.

Неяк прыехаў я ў пушчанскі гарадок Івянец, што на беразе ракі Волма. Іду па вуліцах, прыглядаюся да акон. І на кожным бачу вазоны. А растуць яны ў прыгожых гліняных вазонніцах. Тут я і ўспомніў пра свайго глінянага пеўніка.

І яго, і тыя вазонніцы, аказваецца, стварылі адны і тыя ж людзі, івянецкія ганчары. І пайшоў я на тутэйшы завод мастацкай керамікі, дзе яны працуюць.

У прасторных цэхах кіславата пахла свежай глінай, павольна беглі стужкі канвераў, моцна дыхалі цяплом электрапечы. Каля іх завіхалася многа людзей. Канвееры неслі да печаў яшчэ сырыя вазы, кубкі, сподкі. Але ўвесь сакрэт адкрыўся мне, калі зазірнуў у некалькі невялікіх пакояў, што былі тут, у цэху. Гэта рабочыя месцы вядомых усёй рэспубліцы ганчароў Міхаіла Звярко, Антона Пракаповіча.

...Круціцца і круціцца ганчарны круг—невялікі станок з кружочкам наверсе. Міхаіл Звярко бярэ ў руку камячок мяккай карычневай гліны, кладзе яго на круг—і вось ужо творыцца сапраўднае дзіва. Спрытныя рукі ганчара выпрацоўваюць самае неверагоднае. Камячок расце, выгібаецца, набывае форму. Вось ён пачынае звужацца ў гарлавінку, зверху зноў крыху расшыраецца. Здагадваешся, што гэта павінен быць гарлачык. Усё і сапраўды нагадвае дзіва, як быццам на вачах тваіх распускаецца незвычайная кветка.

І вось гарлачык гатовы. Майстар ставіць яго на паліцу і кладзе на круг новы камячок гліны. Галоўнае зроблена, але шлях гарлачыка яшчэ не завершаны. Яму трэба прайсці загартоўку ў печы. Потым яго пакрыюць глазурай і адправяць у печ другім кругам.

Бачыў я на фабрыцы самыя розныя вырабы: збанкі, міскі, вазы, гліняных баранчыкаў і птушак.

Нялёгкая праца ў ганчара. Цяпер круг верціць электрычны матор. А калісьці круцілі яго нага[illegible] І рабілі яны за дзень ст[illegible]і рухаў, што, калі б перавесці іх у крокі, атрымалася б адлегласць у семдзесят кіламетраў. Гэта—шлях ад Івянца да Мінска.

Круціцца га[illegible]ны круг. Вырастае ў р[illegible] майстра гарлачык.

А вось каб стварыць глінянага пеўніка, ганчар карыстаецца спецыяльнымі палачкамі. Гэта—горлышка, шыпуль, трасціна. Нараджэння яго бачыць не давялося, але наведаў ганчароў, і мне здалося, што я пабываў у дзяцінстве і сустрэў свайго глінянага пеўніка.



У спякотны жнівеньскі дзень так прыемна выпіць халоднага соку.

Фота С. КРЫЦКАГА.

## ЛІЧЫЛКА

Села Света
У ракету,
Абляцела
Вакол свету,
Глянула
За небакрай —
Каго хочаш
Выбірай.

Віктар ГАРДЗЕЙ

## РАГАТЫ ГРЫБНІК

Паміж ялін кашлатых,
Па верасе ў расе
Ідзе грыбнік рагаты
І барадой трасе.

Лясныя помніць сцежкі
І ляды, дзе заўжды
Збірае сыраежкі,
Апенькі і грузды.

У шапачцы прывабнай
Мільгнецца баравік,
Дык перад ім нязграбна
Аж кленчыць той грыбнік.

Гаямі і барамі
Не ходзіць ён з кашом,
Грыбы бярэ губамі
Ці ліжа языком.

Яго між дрэў кашлатых
Вітае пушча ўся.
У грыбніку рагатым
Як не пазнаць лася!

Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

## КОЦІК

Коцік-варкоцік
Лёг на жывоцік,
Лапкі пад вушка —
Не трэба падушка.

## СКОРАГАВОРКІ

### КОБРА

Улавілі кобру, пасадзілі
ў торбу.
Калі ў торбе кобра —
Гэта вельмі добра.

### РАК

Рак поўз паўз барак,
Сустракае рака грак:
— Здароў, рак, дай руку,
У раку завалаку.

### АБЫЯК

Абыяку — абы-як,
Або гэтак, або так.
Абыяку — абы,
Абы збыць абы-куды
Абы-што, абы-чыё.

## ЗАГАДКІ

Што нас корміць, а есці не просіць?

(Зямля.)

Чоран, ды не воран,
рагат, ды не бык,
шэсць ног без капыт,
ляціць — вые,
сядзе — зямлю рые.

(Жук.)

Што без вады плавае?

(Хмара.)

Што за кніжка, братцы,
Вырасла на градцы?
Круглая,
Зялёныя лісты,
Ды яе не прачытаеш ты.

(Капуста.)

## СМЯШЫНКІ

Вучні рашалі задачу.

У канцы ўрока настаўнік спытаў:

— Якога варэння купілі больш, абрыкосавага ці клубнічнага?

Сярожа адказаў:

— Клубнічнага купілі больш, таму што яно смачнейшае.

Маці:

— Настаўніца спевАў паскардзілася, што ты заснуў на ўроку. Гэта праўда?

Сын:

— А што мне было рабіць, калі ўвесь клас спяваў калыханку.



Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі з саўгаса-камбіната «Арэхаўка», што на Ушаччыне, страсныя аматары водналыжнага спорту.

Алесь СТАВЕР

## ХІТРЫ ВЕРАБЕЙКА

Дзяніска і Андрэйка пайшлі лавіць рыбу. Нехта сказаў ім, нібыта ў вадасховішчы, што ў Зялёным Лузе на ўскраіне Мінска, водзяцца карасі і плоткі.

Дзень быў спякотны, на небе ні хмурынкі. Хлапчукі пакупаліся ў цёплай вадзе. Потым закінулі вуды і селі чакаць, калі рыба пачне брацца. Недалёка ад іх пырхала чародка вераб'ёў. Шуганулць да вадасховішча, рассыплюцца па пясчаным бе[illegible]зе, скок-скок у ваду, [illegible]зпянуцца — пырскі аж [illegible] пясок ляцяць. І раптам сарвуцца ўгору, нібы магутны віхор садзьмуў іх. Апусцяцца на парыжэлую ад сонца траву і шчыруюць у пошуку спажывы.

Рыба не клявала. Дзяніс[illegible] і Андрэйка амаль задрамалі. І тут над іх галовамі матнуўся цёмны цень. Хлапчукі ўбачылі, як вялікі каршун кінуўся да чародкі вераб'ёў. Тыя пырхнулі ўгору і рассыпаліся хто куды. Каршун крута рвануў у неба, павольна паплыў у бок лесу.

Дзяніска паспеў убачыць, што адзін верабейка ледзь-ледзь не трапіў у каршуновыя кіпцюры. Пад самым драпежнікам ён кульнуўся ў паветры і каменем упаў каля куста. Дзяніска пабег паглядзець, што здарылася з верабейкам, можа, аб вострыя кіпцюры параніўся — дапамагчы трэба яму. Падбег да куста, бачыць: ляжыць верабейка на траве дагары, падагнуўшы лапкі. Дзяніска нахіліўся, каб узяць верабейку, а той імгненна ажыў, сігануў з-пад самых рук угору і знік у блакіце.

Мікола КАПЫЛОВІЧ

## ПАПУГАЙ І СЫР

Прыляцеў з Афрыкі Папугай. Купіў у магазіне сыру. Залез на дрэва і думае: «Адпомшчу Лісе за тое, што яна ў Вароны сыр выманіла».

Прыбег Сабака. Убачыў Папугая з сырам—пачаў брахаць і бегаць вакол дрэва. А Папугай сядзіць, увагі не звяртае. Пабрахаў Сабака і пабег далей.

Прыйшоў з лесу Дзік. Убачыў Папугая з сырам — пачаў дрэва падкопваць. А Папугай сядзіць—не варухнецца. Парохкаў Дзік ды падаўся ў лес.

Прытупаў Мядзведзь. Убачыў Папугая з сырам—зароў, каб спалохаць. А Папугай сядзіць, быццам нічога не чуе. Пайшоў Мядзведзь.

Прывалокся Воўк. Убачыў Папугая разам з сырам — завыў на ўвесь лес. А Папугай сядзіць ды слухае, нібы гэта чароўная музыка. Пацягнуўся і Воўк глыбей у лес.

Паказалася Ліса.

— Ну, нарэшце! — сказаў Папугай.

Рот адкрыўся, сыр выпаў, і застаўся Папугай у дурнях.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1204